# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.; ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 4 (390) — Нядзеля, 26 студзеня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Масква ўзмоцніла прапагандовую афэнзыву

Савецкі Саюз у сваёй бязупыннай афэнзыве супраць вольнага сьвету паслугоўваецца дзьвюма зброямі. Аднэй зь іх ёсьць узброеная да зубоў шматмільённая армія, якая ў часе міру, зьяўляецца, праўда, толькі патэнцыяльнай сілай, тым ня меней з пазыцыі гэтае сілы бальшавікі могуць весьці сваю замежную палітыку і ў выпадку патрэбы пагражаць ейным ужыцьцём, а тым самым ажыцьцяўляць патрэбныя ім дасягненьні.

Другой зброяй бальшавікоў, яшчэ больш для іх эфэктоўнай у мірным часе, ёсьць іхная раскладальная дзейнасьць у вольным сьвеце, якая праводзіцца ў заплеччы праціўніка. Гэта дзейнасьць камуністычных калёнаў, умела й з надзвычайным накладам фінансавых сяродкаў ведзеная прапаганда, усякага роду дывэрсіі й правакацыі. Усё гэта мае на мэце з аднаго боку прыдбаць сабе найбольш сымпатыяў сярод народаў вольнага сьвету, асабліва недаразьвітых і нядаўна каляніяльных краінаў Азіі й Афрыкі, а з другога — прытупіць асьцярожнасьць і пільнасьць вольнага сьвету на камуністычную небясьпеку ды абяззброіць яго маральна й псыхалягічна.

У залежнасьці ад сваей стратэгіі й тактыкі, Масква ў сваім паходзе супраць вольнага сьвету або адначасна выкарыстоўвае ў роўнай меры абедзьве гэтыя зброі, або дае перавагу аднэй перад другою. Гэтак ад збройнага канфлікту Ангельшчыны й Францыі з Эгіптам у справе Суэзу, што мела месца ў пачатку лістапада 1956 году, і аж да Маскоўскае канфэрэнцыі дзяржаваў камуністычнага блёку, што адбылася адразу-ж пасьля сьвяткаваньня саракагодзьдзя кастрычніцкай рэвалюцыі, Крэмль у сваёй афэнзыве супраць Захаду гучна пазвоньваў ваеннай зброяй. Ня перапыняючы й прапагандовае акцыі й навет не аслабляючы яе, крэмлёўскія правадыры ў вадпаведных мамэнтах нядвузначна пагражалі заходнім дзяржавам вайсковай інтэрвэнцыяй. Гэтая пагроза ўпяршыню была высунутая пад адрысам Ангельшчыны, як ультыматум дзеля спыненьня ваеннай інтэрвэнцыі ў Эгіпце падчас суэзкага канфлікту. Потым была паўтораная пад адрысам Турэччыны й пасярэдна пад адрысам Атлянтычнага блёку ў сувязі з уяўнымі агрэсыўнымі намерамі апошняга ў дачыненьні да Сырыі. Напасьледак, у рэзалюцыі Маскоўскай канфэрэнцыі было выразна сказана, што ў тых капіталістычных краінах, у якіх пры адпаведных умовах ня можа быць захопленая ўлада камуністымі мірным спосабам, можа быць ужытая збройная сіла. Значыцца, прынцып ужыцьця збройнае сілы дзеля правядзеньня сусьветнае пралетарскае рэвалюцыі стаўся ўзноў адным із галоўных пунктаў праграмы камуністычнае акцыі.

Але застрашваньне збройнай сілай трывала нядоўга. Некаторыя важныя падзеі, якія нядаўна пачалі разьвівацца на Захадзе, прымусілі бальшавікоў грунтоўна зьмяніць сваю тактыку.

Апошнія савецкія дасягненьні ў галіне ракетнае зброі міжкантынэнтальнага засягу й выпушчэньне ў сусьвет штучных спадарожнікаў зямлі пры адначасных вялізарных тэмпах збраеньняў наагул вывелі Захад із стану спакойнага сну. Захад канчаткова пераканаўся, што загроза савецкае небясьпекі ўжо цяпер зьяўляецца рэальным фактам, а дзеля гэтага стаў перад няўхільнай канечнасьцяй шуканьня радыкальных мерапрыемстваў дзеля сваей абароны. На савецкія дасягненьні ў галіне мадэрнай ваеннай тэхнікі, як ведама, наймацней зарэагавала Амэрыка. Усьведамляючы сваё правадырства ў вольным сьвеце і пачуўшыся беспасярэдна сама загрожанай, Амэрыка шыбка й наважана пачала шукаць спосабаў, каб як найхутчэй дагнаць Савецкі Саюз у тых дзялянках, у якіх аказалася ім апярэджанай, ды ўзмоцніць яшчэ больш дзялянкі тыя, у якіх мае перавагу.

Гэтыя амэрыканскія мерапрыемствы ідуць у трох аснаўных кірунках.

Папершае, Амэрыка пастанавіла зьвярнуць максімум увагі на разбудову сваіх збройных сілаў, галоўна ў галіне ракетнага аружжа. Запрапанаваны прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам бюджэт на 1958/59 год у вышыні 73,9 мільярдаў даляраў зьяўляецца рэкордным бюджэтам пасьляваеннага часу, у якім на патрэбы абароны прадугледжваюцца 64 працэнты. Амэрыканскі народ глыбака разумее няўхільную патрэбу ўзмацненьня собскае абароны й гатовы да вялікіх ахвяраў, таму трэба спадзявацца, што гэты бюджэт будзе Кангрэсам прыняты. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр у сваёй традыцыйнай навагодняй прамове аб стане вуніі падаў праграму абаронных мерапрыемстваў. Гэтая праграма прадугледжвае: павялічэньне далёкасягальных ракетаў, апрацаваньне пляну прадукцыі міжкантынэнтальных ракетаў, змадэрнізаваньне лётніцтва, прадукцыю атамных падводных лодак і караблёў, стварэньне лётных вайсковых адзінак дзеля лякалізаваньня мясцовых канфліктаў, а так-жа кантынуаваньне замежнай вайсковай і эканамічнай дапамогі.

Падругое, Задзіночаныя Штаты Амэрыкі прыступаюць цяпер да рэарганізацыі кіраўніцтва збройнымі сіламі. Як ведама, дагэтуль тры галоўныя часьці амэрыканскіх збройных сілаў — армія, ваенны флёт і лётніцтва былі ад сябе незалежнымі, між сабою канкуравалі, а таму ня было адзінага абароннага пляну. Цяпер-жа кіраўніцтва абароны мае быць сканцэнтраванае ў вадных руках, а рэарганізацыяй кіраўніцтва абароны мае заняцца прэзыдэнт Айзэнгаўэр асабіста. Справа рэарганізацыі абароны ЗША ўважаецца настолькі важнай, што прэзыдэнт Айзэнгаўэр паставіў яе на першым месцы сваей васьміпунктовай праграмы, сфармуляванай у ўспомненай прамове аб стане вуніі.

І патрэйцяе, Амэрыка пастанавіла цясьней скансалідаваць заходнія дзяржавы — сяброў Атлянтычнага пакту і ў сэньсе стратэгічным, і палітычным. Як ведама, гэта было галоўным заданьнем апошняй канфэрэнцыі дзяржаваў Атлянтычнага пакту, што адбылася ў Парыжы ў палавіне мінулага месяца. Найважнейшым практычным заданьнем гэтае канфэрэнцыі было дасягненьне паразуменьня аб разбудове амэрыканскіх базаў для атамных ракетаў сярэдняга засягу на тэрыторыі эўрапэйскіх краінаў. Ня гледзячы на тое, што гэтае пагадненьне было дасягнутае толькі часткова, бо некаторыя дзяржавы із страху перад савецкай адплатай адмовіліся ад амэрыканскіх базаў, усё-ж у прынцыпе пытаньне гэтае было разьвязанае пазытыўна. А Вялікабрытанія яшчэ перад Парыскай канфэрэнцыяй згадзілася на пабудову такіх базаў на сваей тэрыторыі.

**Усе гэтыя і ім падобныя сур'ёзныя абаронныя мерапрыемствы Захаду моцна занепакоілі Маскву.** Яны паказалі, што выяўленьне Саветамі іхнай перавагі ў некаторых галінах ваеннае тэхнікі і іхная палітыка ваенных пагрозаў выклікалі на Захадзе адваротную да іхных зычэньняў і спадзяваньняў рэакцыю. Замест панікі, разгубленасьці й капітуляцыі, Захад выказаў цьвёрдую волю да супрацьдзеяньня. Вось гэта й прымусіла Крэмль грунтоўна зьмяніць ягоную наступальную тактыку.

Пачынаючы ад Парыскай канфэрэнцыі НАТО Хрушчоў, як шэф камуністычнай партыі Савецкага Саюзу бесьперапынна выступае з прамовамі, у якіх суліць заходняму сьвету мір, супрацоўніцтва й вечную прыязьнь пад умовай, што апошні спыніць свае абаронныя мерапрыемствы й згодзіцца на савецкія прапановы. З другога боку Булганін, як шэф савецкага ўраду, закідвае кіраўнікоў заходніх дзяржаваў лістамі з такімі-ж самымі прапановамі, на якія прэм'еры ўрадаў заходніх дзяржаваў не ўсьпяваюць адказваць. У сваіх мірных жэстах Савецкі Саюз пасунуўся так далёка, што вуснамі свайго міністра замежных справаў Грамыкі выказаў пажаданьне навязаць афіцыяльныя дыпляматычныя дачыненьні навет з Ватыканам.

Усе гэтыя савецкія прапановы ў васноўным зводзяцца да двух наступных пунктаў.

Першым зь іх зьяўляецца сьхіліць заходнія вялікадзяржавы да скліканьня канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні, г. зн. з удзелам шэфаў дзяржаваў, або дабіцца двухбаковых гутарак між Савецкім Саюзам і Амэрыкай безь яе эўрапэйскіх саюзьнікаў. І ў вадным і ў другім выпадку Саветы спадзяюцца прапагандовага выйгрышу. Двухбаковая канфэрэнцыя Савецкага Саюзу з Амэрыкай мела-б для Саветаў яшчэ й тую карысьць, што яна выклікала-б недавер заходняэўрапэйскіх дзяржаваў да Амэрыкі й падазрэньне, што Амэрыка можа дагаварыцца з Савецкім Саюзам іхным коштам.

**Урады заходніх дзяржаваў** гэтыя савецкія прапановы аднагодна адкідаюць, высоўваючы сваю прапанову, што каб склікаць канфэрэнцыю на найвышэйшым узроўні, трэба спачатку мець пэўнасьць, што яна дасьць пазытыўныя вынікі, а ня будзе толькі форумам для савецкае прапаганды. Таму заходнія дзяржавы прапануюць спачатку склікаць канфэрэнцыю толькі міністраў замежных справаў і ад ейных вынікаў узалежніць скліканьне канфэрэнцыі шэфаў урадаў.

Другім пунктам савецкіх прапановаў зьяўляецца стварэньне ў Эўропе зоны бясьпечнасьці між Савецкім Саюзам і заходнімі дзяржавамі. Пачатак зрабіў, пэўне-ж пад дыктоўкі Крэмля, польскі міністар замежных справаў Рапацкі, які высунуў праект стварэньня ў Эўропе

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Мэдыкі

Ёсьць яны ў нас ці няма іх? На добры лад, павінны былі-б быць. Калісьці па лягерах нат і цыгарэты — лягерныя «грошы» — зьбіралі, каб памагчы аднаму з другім у сьвет прабіцца, навуку адолець. Быццам ёсьць. Бо сёй-той і з нас да свайго па лекі ходзіць. Ёсьць, напэўна ёсьць і віленскіх, і праскіх, і марбурскіх, і лювэнскіх! Бо ці раз даводзілася чуць, што «інтэрншып» дыхнуць не дае; што для пацыентаў ночы недасыпае; што за працай сьвету ня відаць. Значыцца, ёсьць яны, бо выпраўданьняў гэткіх — дзе ні стукні.

І ўсё-ткі іх няма. Нат і сьледу ня відаць. Ня відаць ужо доўга, доўга — аж ад апошняга выхаду «Мэдычнае думкі». І было гэта ўсё «во время оно»...

На эміграцыі шмат беларускіх арганізацыяў розных крояў і характараў, рознае жыцьцяздольнасьці й розных патэнцыяльных магчымасьцяў. Некаторыя нат кажуць, што іх зашмат — асабліва калі паглядзіш на худыя вынікі іхнае дзейнасьці. Але чаму не выяўляюць сябе **арганізацыйна** мэдыкі? Каб **беларускімі** мэдыкамі стацца. Было-б яшчэ паўбяды, калі-б яны па іншых арганізацыях горы варочалі: старшыні, сакратары, правадыры. А то як на якім-небудзь усебеларускім пікніку або іншай пагулянцы, дык напорашся яшчэ на сяго-таго, але пры працы — пэўна-ж, пры грамадзкай — дык усё тых-жа пару працавітых асобаў. А дзе-ж рэшта? — Ёсьць і няма. Няма і ёсьць. На асабістай ніве ёсьць. На грамадзкай няма. Для беларускае навукі няма. Для заработкаў ёсьць.

Але калі беларускія лекары ня маюць сілы задзіночыцца й дзеіць праз сваю грамадзка-прафэсійную арганізацыю, дык чаму ім не задзіночыцца вакол якое-небудзь справы ці канкрэтнае дзейнасьці наагул, якая-б не вымагала аж столькі арганізацыйных клопатаў? А ёсьць, між іншага, вельмі ганаровы й высакародны выхад з дасюлешняе стадыі «набіраньня сілаў» ды «ўростаньня ў мясцовую глебу». Выхадам гэтым ці не магла-б стацца **выдавецкая дзейнасьць беларускіх лекароў?** Не, не — ня пісаць кнігі, а **выдаваць**.

Мне нядаўна давялося слухаць горкія нараканьні, што няма пад рукой салідпае беларускае хрэстаматыі (дзеці такжа борзда асымілююцца!), што няма геаграфіі Беларусі, гісторыі, чытанкі, катэхізісу. Ці гэта пяршыня! А магла-б быць ужо на сьвеце, скажам, «Хрэстаматыя для беларускае моладзі... Выданьне: Аб'еднаньня Беларускіх Лекароў на Чужыне. Нью-Ёрк, 1955». Няўжо гэта аж так немагчыма? І калі гэта было немагчымым дагэтуль, дык няўжо на будучыню мае гэтак і застацца?

Цяжка вымагаць ад лекара, які, як і кажны іншы, мусіць дбаць аб сваю прафэсію, каб ён пакідаў хворых пацыентаў ды йшоў на чароднае паседжаньне грамадзкае або парахвіяльнае арганізацыі. Але чаму не рэкампэнсаваць гэты час сталай доляй свайго «прымусовага» заработку, ахвяроўванай ад імя лекарскае арганізацыі?

Было-б непраўдзіва й крыўдна цьвердзіць, што няма ў нас ахвярных лекароў, або што ўсе яны багатырамі сталіся. Аднак факт, што з гледзішча матар'яльнага беларускія лекары маюцца куды лепш за іншых, і як цэласьць, маглі-б куды значней выказваць сваё арганізаванае быцьцё. І калі яны дагэтуль нічога ў гэтым кірунку не зрабілі, дык ужо найвышэйшая пара ўзяцца за сябе самых.

Бо будзе бяда эміграцыі, калі ейная інтэлігенцыя пачне пераварочвацца ў заработкавую масу.

**Я. Запруднік**

**Ад Рэдакцыі:** Паводля ўсіх атрымоўваных намі вестак выказаныя вышэй спасьцярогі аб жыцьці беларускіх лекароў датычаць ня толькі да іх, але й да вельмі шмат каго з нашае ттхнічнае інтэлігенцыі.

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Мінулы тыдзень прайшоў пад знакам адказаў заходніх дзяржаваў на лявіну лістоў і зваротаў Булганіна. Булганін маўчаў — бачна падрыхтоўвае новую лявіну.

Сэнс усіх адказаў быў вельмі-ж падобны, яны розьніліся толькі аргумэнтацыяй і тэмпэрамэнтам. Айзэнгаўэр, Адэнаўэр, Макміллян, Гайяр, Дзоля і іншыя выказалі згоду на сустрэчу на «найвышэйшым узроўні», чаго дамагаўся Булганін, аднак пад варункам дакладнай падрыхтоўкі гэтай сустрэчы шляхам дыпляматычных перамоваў і канфэрэнцыі міністраў замежных справаў. Як ведаем, Масква адкідала ўсе гэтыя перамовы і дамагалася сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў у якнайхутчэйшым тэрміне і з акрэсьленым парадкам дня. Масква ведае, чаго хоча, а, менавіта, хоча другой «Жэнэвы». У сваіх дамаганьнях Булганін быў настолькі некарэктны, што запрапанаваў Жэнэву месцам гэтай сустрэчы. Усё-ж такі заходнія дыпляматы разшыфравалі намеры Булганіна і паставілі свае ўмовы. Цікава, якая будзе рэакцыя Масквы: ці яна згодзіцца на нейкі кампраміс, ці брутальна пакажа «кукіш» і ці тады на Захадзе не пачнуць шукаць гнілога кампрамісу?

Як да гэтага часу савецкі ўрад не падаў да ведама свайго грамадзтва поўных тэкстаў заходніх нотаў, хаця савецкая прэса даволі войстра іх лаяла.

Адносна тону і тэмпэрамэнту заходніх адказаў, найбольш канкрэтнай была нота францускага прэм'ера Гайяра. Ён, праўда, ветліва, але выразна сказаў маскоўскім верхаводам, што аб іх думае. Што значыць малады векам чалавек ды яшчэ з францускім тэмпэрамэнтам!..

⁂

Вельмі характэрнай падзеяй была сакрэтная візыта Хрушчова ў Польшчы. Афіцыяльныя весткі спозьнена падалі, што Хрушчоў «адпачываў» на польска-савецкай граніцы і пры гэтай нагодзе «паляваў» і гутарыў з Гомулкам у белавескай пушчы. Што Хрушчоў «упаляваў» і аб чым гутарыў з Гомулкам — «гісторыя прамаўчвае». Аднак той факт, што Хрушчоў адпачываў у Белавежы, тады, калі, паводле маскоўскага радыя, ў Сочы цьвітуць акацыі — вельмі характэрна і вельмі сумлеўна, ці можна прычыны гэтага шукаць толькі ў экстравагацыі першага сакратара ЦК КПСС. Тут сабака глыбей закапаны...

Вось-жа, як ведаем, цяпер у Амэрыцы польская дэлегацыя вядзе перамовы адносна амэрыканскай эканамічнай дапамогі Польшчы. Здаецца, што гэтая дапамога зашмат непакоіць Хрушчова і супалку. З другога боку, эканамічнае палажэньне Польшчы настолькі цяжкае, што без дапамогі зза мяжы там можа паўстаць новы «кастрычнік». А дапамога можа прыйсьці толькі з ЗША, або СССР.

І вось тут уся пікантэрыя гэтай падзеі, што польская прэса хацела дыскрэтна прамаўчаць візыту Хрушчова, а за тое, савецкая прапаганда нядыскрэтна «прабалбаталася». Тут ужо выразна белымі ніткамі па чорных нагавіцах шыта; Хрушчоў хоча старпэдаваць амэрыканскую дапамогу для Польшчы. Але ці ў замену гэтага Хрушчоў штосьці дасьць Палякам. — Пакуль што няведама...

⁂

Ня столькі характэрнай, колькі паказальнай падзеяй быў факт затрыманьня югаслаўскага параплаву францускімі ваенна-марскімі адзінкамі. Параплаў «Слёвэнія» быў затрыманы на альжырскіх водах з ладункам азбраеньня для альжырскіх паўстанцаў. Выявілася, што зброя была чэхаславацкая. Югаслаўскія ўрадавыя колы вельмі-ж наіўна тлумачаць, што гэтая зброя была везеная для ... Емэну. Але чаму яна была высланая з Брыёні ў Касабланку — трудна зразумець. Можа, маўляў той, «зайшоўся ў пекла — было па дарозе»...

Іншымі словамі — дзе Ціту не пашчупаў — усюды будзе камуністы. Гомулка, хіба, таксама...

**ВЫКАНАЙ ГРАМАДЗКІ АБАВЯЗАК — ПАШЛІ СВОЙ ДАР САКАВІКА Ў КАСУ ФОНДУ БНР!**

# Зьдзекі зь беларускай мовы

Менская «Літаратура і Мастацтва» ў №99 за 14 сьнежня 1957 г. зьмясьціла артыкул студэнта аддзелу журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Барыса Сачанкі пад загалоўкам «Шанаваць родную мову». Перадрукоўваючы ніжэй у невялікім скарачэньні гэны артыкул, мы даём яму загаловак «Зьдзекі зь беларускай мовы», які больш адказвае ягонаму зьместу, а якога, із зразумелых прычынаў, ня мог ужыць ягоны аўтар. Мы ўжо ня раз пісалі, абапіраючыся на матарыялах беларускай савецкай прэсы, аб шалёнай русыфікацыі ўсіх дзялянак беларускага культурнага жыцьця ў БССР, у тым ліку й беларускай мовы, а таксама аб выразным, хоць і прыхаваным часамі, буньце лепшай часткі беларускае інтэлігенцыі, паэтаў, пісьменьнікаў і інтэлектуалістых супраць шалёнага русыфікатарскага наступу Масквы й ейных стаўленікаў у Беларусі на найбольш элемэнтарныя нацыянальныя патрэбы беларускага народу. Спасярод друкаваных намі матарыялаў на гэтую тэму ніжэй зьмешчаны артыкул Барыса Сачанкі прыносіць бадай найболей дакумэнтальных дадзеных аб абнаглелай русыфікатарскай палітыцы бальшавікоў і аб ігнараваньні нацыянальных правоў беларускага народу. Аўтар у канцы артыкулу, відаць, каб засякуравацца перад абвінавачаньнем у «буржуазным нацыяналізме», цытуе выказваньні Леніна супраць русыфікатарскай акцыі Масквы ў дачыненьні да Украіны.

Аўтар артыкулу апісвае сваю паездку аўтабусам у вадзін з раёнаў Магілёўшчыны й гутарку із сваім прыпадковым спадарожнікам, выпускніком беларускай сярэдняй школы. Аўтар працягвае сваё апавяданьне наступнымі словамі:

«І я пачаў разглядаць зграбна перавязаны шпагатам пакунак кніг, відаць, толькі што купленых у раймагу. Гэта былі падручнікі па матэматыцы для старэйшых клясаў.

— У школу ўжо рыхтуецеся? — паказаўшы вачыма на кнігі, спытаў я хлапца, як толькі ён павярнуў галаву ў мой бок. Я хацеў прыняць удзел у гутарцы прадстаўнікоў старога і маладога пакаленьняў.

— Якраз і ня так. Школу я ўжо закончыў. Паступаць от думаю, — хлопец сарамліва ўсьміхнуўся, пасьля дадаў: — Перавучвацца толькі трэба. А тут і часу мала... Ня ведаю, што і рабіць?

— Як гэта перавучвацца? — не разумеючы, у чым справа, спытаў я.

— Вельмі проста. Зь беларускай мовы на рускую. Хлопцы нашы некаторыя яшчэ з восені панакуплялі рускіх падручнікаў, дык цяпер ужо добра разьбіраюцца, дзе «знаменатель», а дзе «числитель»... А я здураваў. На беларускай, праўда, вучыць было лягчэй — усё-ж свая, родная мова. Але-ж цяпер вось прыдзецца папарыцца, — тлумачыў мне нядаўняшні дзесяціклясьнік.

— А навошта табе перавучвацца? Можна-ж і на беларускай здаваць, — хацеў супакоіць я хлопца.

— Можна, ды асьцярожна, — запярэчыў выпускнік. — Казала сама Наталя Адамаўна, што амаль ніхто з выкладчыкаў на фізмаце беларускай мовы ня ведае... Дык вось і глядзіце. Напішаш тлумачэньне да задачы пабеларуску, а ён не зразумее чаго-небудзь — і едзь дамоў з такам. Да таго-ж вучыўся я як быццам-бы і ў беларускай школе, а роднай мовы ня ведаю.

— Чаму?

— Ды вы ня зьдзіўляйцеся. Не адзін я такі ў нашай школе. Чаму так, пытаеце? Настаўніца тлумачыць і апытвае на рускай мове, а вучым мы ўрокі па беларускіх падручніках.

Гэтая размова мяне насьцярожыла. Ня першы раз я сустракаў гэтакі выпадак, калі настаўнік з-за дрэннага веданьня роднай мовы адбівае ўсякую ахвоту да яе і ў вучня. «Наталя Адамаўна — гэта адна з такіх», — падумаў я і, распытаўшы, дзе яна жыве, пайшоў проста да яе на кватэру.

На парозе дому, што стаіць амаль на самым канцы сяла, мяне сустрэла стройная прыгожая дзяўчына год дваццаці чатырох з унівэрсытэцкім значком на кляпе лёгкай жакеткі.

— Тут кватаруе настаўніца Наталя Адамаўна? — пытаю.

— Але-ж, тут, — адказвае яна і запрашае заходзіць. — я і ёсьць.

— Я хачу з вамі пагутарыць, — пачынаю я, калі мы заходзім у невялічкі чысты пакойчык і садзімся за столік каля акна. Расказваю аб сустрэчы з хлопцам, аб усім, што пасьпеў расказаць ён мне за дарогу.

— А, дык вось вы пра што, — нарэшце зразумела настаўніца. — Бачыце, я таксама ня вінавата, што не магу тлумачыць на беларускай мове.

— А хто-ж?

— А вось паслухайце і разьбярыцеся самі. Я зь вёскі з-пад Магілёва, вучылася ў беларускай школе, здаецца, да паступленьня ў унівэрсытэт нядрэнна і гаварыла пабеларуску. А там забыла ўсё. Ды гэта і ня дзіўна. Пяць год ня было чуваць на лекцыі беларускага слова! Ня ведаю, чаму гэта так? У інстытутах іншых рэспублік выкладаньне вядзецца на роднай мове. Вось і выкладаю пакуль што на рускай. Аднак, што я магу зрабіць? Перавучваюся ужо на беларускую. Ды і хіба я адна такая? Вунь колькі ў нас настаўніц — выпускніц пэдінстытутаў. Таксама роднай мовы ня ведаюць. — Наталя Адамаўна памаўчала. — Куды-б ты ні паступаў — у тэхнікум або інстытут — беларускай мовы і літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову — усе справы вядуцца на рускай мове. Родная мова амаль ня ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетках. — Настаўніца зноў памаўчала і дадала. — Я так разумею — пара пакончыць з гэтым перавучваньнем, пара беларускія навучальныя ўстановы зрабіць беларускімі на справе... Чаго для гэтага не хапае? Кадраў сваіх? Яны вырасьлі, яны ёсьць у нас!

Я маўчаў. Ды і што я мог сказаць? Яна гаварыла чыстую праўду, хоць і горкую, няпрыемную.

Іду ў школу. Цікава ведаць думку і іншых настаўнікаў. У настаўніцкай я знаходжу чалавек шэсьць. Пачынаем размову: як у школе ведаюць мову вучні.

— Кепска, — адказвае мне малады выкладчык-мовазнаўца, выпускнік пэдінстытуту. — Ды яно і ня дзіўна, бо настаўнікі самі ня ведаюць мовы. Вось я, напрыклад, вучыўся ў інстытуце выкладаць рускую мову і літаратуру, а ў школе далі мне яшчэ выкладаць беларускую мову і літаратуру...

Гутару зь іншымі настаўнікамі. Тое-ж самае. І ўсе скардзяцца на інстытут, які не садзейнічаў глыбейшаму вывучэньню роднай мовы.

Усё гэта мяне дужа ўсхвалявала і, адразу-ж вярнуўшыся ў рэдакцыю раённай, дзе я праходзіў вытворчую практыку, пачынаю расказваць супрацоўнікам, што бачыў і пачуў. Усе згаджаюцца зы мной, што адносіны да роднай мовы ў нас шмат дзе няправільныя.

— Ды хіба толькі настаўнікі мовы ня ведаюць? — кажа адзін з супрацоўнікаў. — Возьмем нас, журналістых, тых, хто нясе друкаванае слова ў масы. Глядзі, як часам пішуць, — і ён падае мне толькі што прынесены паштаром нумар газэты «Фізкультурнік Беларусі» ад 18 чэрвеня 1957 г.

Я чытаю, і мне робіцца сорамна за сябе, за ўсіх тых газэтчыкаў, якія ня ведаюць роднай мовы і пішуць: «пярвейшае месца», «насукор гэтаму рашэньню», «дарожка зь пілаваньня», «вымалёўваецца спартыўны почарк», «будуе бой», «бескаляровы матч», «валейбалісты разыграліся і перамаглі», «мяч быў моцна прабіты нападаючым», «у нас з рэспублікі выехала і ўяжджае многа таленавітых стартсмэнаў»».

— А ў рэдакцыі «Фізкультурніка Беларусі», напэўна-ж, працуюць людзі з вышэйшай адукацыяй, большасьць зь іх мо' закончыла ў свой час Беларускі ўнівэрсытэт, — заўважае між іншым супрацоўнік. — Што тады ўжо ад нас патрабаваць, калі так пішуць у рэспубліканскай газэце.

За сталамі, ссунуўшы гальштукі і расшпіліўшы каўнерыкі, сядзяць супрацоўнікі. Перад кажным — кніга руска-беларускага слоўніка. І рэдакцыя нагадвае ня творчы калектыў, а бюро перакладчыкаў...

Каля аднаго супрацоўніка я спыняюся:

— Ну, як пішацца?

— Ды няхай яно згарыць. Рука забалела, гартаючы слоўнік. Колькі часу ідзе на гэтую работу!

Гэта чыстая праўда. Але я не распытваю, чаму ён ня ведае роднай мовы. На аддзеле журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, якое ён закончыў пазалетась, вывучэньню беларускай мовы не надаецца належнай увагі. За паўтара года тут праходзяць поўны курс роднай мовы (на аддзеле беларускай мовы і літаратуры — за чатыры), за два гады — курс беларускай літаратуры, за поўгода — беларускі фальклёр. Вось бадай што і ўсё навучаньне. Курс беларуска-рускай стылістыкі гэта толькі назва. Выкладаецца ён на рускай мове і амаль цалкам на матарыяле з рускіх выданьняў.

Яскравы прыклад таго, як ведаюць будучыя журналістыя беларускую мову, — шматтыражная газэта «Беларускі унівэрсытэт» ад 4 сьнежня, якая выпускаецца кажны тыдзень студэнтамі аддзелу журналістыкі старэйшых курсаў. Той, хто пажадае зь ёю пазнаёміцца, знойдзе больш за поўсотню прыкладна такіх выразаў: надцягнуць дысцыпліну», «асьвяціць пытаньні», «разгарнуць самадзейнасьць», «пачынаюць агледжваць», «агульнае вясельле» (весялосьць), «як выразіўся адзін», «вызваў інтарэс», «абсуджаны пляны», «захапіць усіх спортам», «лепш усяго яны прайшлі», «не дастае літаратуры» (не стае), «часдругі», «дзякавалі т. Н. Годнева», выразілі надзею», «ясна стала», «вайна ўнесла бацькоў», «укрыцца за акіянам» і г. д. І гэта ў вадным толькі нумары! А выходзяць часам такія нумары, дзе амаль у кажным сказе памылка, — калі не стылістычная, дык граматычная. У рэдакцыі «Беларускага унівэрсытэту» надта любяць чамусьці такія ўтварэньні, як «адпачыўшыя» «іграўшыя», «сустрэўшаяся», «адбыўшаяся», «выступіўшы», таго ня ведаючы, што гэта не ўласьціва беларускай мове.

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Масква ўзмоцніла прапагандовую афэнзыву

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

«бязатамнага пояса» на тэрыторыі абедзьвюх частак Нямеччыны, Польшчы й Чэхаславаччыны. Пазьней Булганін зажадаў пашырэньня гэтага «бязатамнага пояса», які павінен быў-бы цягнуцца ад самай Поўначы аж да Міжземнага мора й абыймаць, апрача ўспомненых у пляне Рапацкага тэрыторыяў, Данію й Нарвэгію на поўначы і Італію на поўдні.

Сэнс гэтай мірнай афэнзывы Саветаў ясны. Гэтымі сваімі жэстамі й што раз новымі прапановамі Масква імкнецца да таго, каб разьбіць і спаралізаваць абаронныя мерапрыемствы Захаду. Найбольш яе палохаюць амэрыканскія базы для атамных ракетаў сярэдняга засягу ў Заходняй Эўропе, якія поўнасьцю роўнаважаць савецкія балістычныя ракеты міжкантынэнтальнага засягу. У дапамогу для дасягненьня гэтай сваей галоўнай мэты, Масква сваімі мірнымі жэстамі спадзяецца прытупіць пачуцьцё асьцярожнасьці сярод народных масаў на Захадзе і настроіць іх супраць вельмі каштоўных абаронных мерапрыемстваў сваіх урадаў.

А якая-ж рэакцыя Захаду на новыя прапагандовыя ходы Масквы?

Вось-жа калі ходзіць пра Амэрыку, дык зь вялікай радасьцю трэба сьцьвердзіць, што савецкія прапановы не знайшлі там жаданага для Крэмля водкліку. Амэрыканскі ўрад і абедзьве партыі — рэспубліканская й дэмакратычная стаяць на прынятых пазыцыях максімальнага ўзмацненьня абароны. Няўдалае выступленьне Кэннана з праектам вываду з эўрапэйскага кантынэнту амэрыканскіх войскаў узамен за вывад савецкіх войскаў з Усходняй Эўропы астаўся голасам адзіночным. Варта адцеміць, што супраць праекту Кэннана войстра выступіў з дэмакратычнай партыі Эчысон, былы міністар замежных справаў у ўрадзе Трумана.

Горш прадстаўляецца справа ў Заходняй Эўропе, дзе ранейшыя савецкія застрашваньні, а цяперака новая мірнае афэнзывы робяць сваё. Асабліва сацыялістычныя колы Заходняй Нямеччыны і перадусім Ангельшчыны дамагаюцца ад сваіх урадаў якраз таго, чаго хочуць Саветы. Яны хацелі-б канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні, спадзяючыся, што яна прынясе міжнароднае адпружаньне, хацелі-б у тэй ці іншай форме нэўтральнага або толькі бязатамнага пояса, хацелі-б напасьледак, каб на тэрыторыі іхных дзяржаваў ня было амэрыканскіх ракетных базаў.

Гэтыя пацыфістычныя настроі, выкліканыя галоўна савецкай прапагандай, у Заходняй Эўропе зьяўляюцца настолькі сільнымі, што брытанскі прэм'ер Мэкмілян уважаў за патрэбнае выступіць у пачатку гэтага месяца з праектам заключэньня між Захадам і Саветамі пакту аб неагрэсіі. Бясспрэчна, брытанскі прэм'ер зрабіў гэтую прапанову, каб успакоіць собскае грамадзянства, тым ня меней гэтая прапанова зьяўляецца вельмі шкоднай.

Шкоднай ужо хоць-бы таму, што як можна, і то без кансультацыі зь іншымі сябрамі Атлянтычнага пакту, прапанаваць пакт аб неагрэсіі з найгоршым у сьвеце агрэсарам, які яшчэ ні разу не датрымаў свайго забавязаньня. Праўда, аднаму пакту аб неагрэсіі былі бальшавікі верныя — гэта пакту зь Гітлерам. Але гэта таму, што ў зламаньні гэтага пакту апярэдзіў іх Гітлер.

Але практычная шкоднасьць прапановы брытанскага прэм'ера заключаецца ў тым, што, прапануючы пакт аб неагрэсіі з Саветамі, ён сугэруе свайму грамадзянству магчымасьць і мэтазгоднасьць такога пакту, чым зьмяншае пачуцьцё небясьпекі перад савецкай загрозай.

З гэтых разважаньняў бачым, што ў той час, калі Саветы накіроўваюць супраць Захаду дзьве свае зброі: чыста мілітарную й прапагандова-дывэрсійную, дык Захад яшчэ й дагэтуль прабуе засланяцца толькі зброяй мілітарнай, не дацэньваючы й невыкарыстоўваючы зброі другой. Пацяшаючым прынамся ёсьць тое, што Амэрыка сяньня сур'ёзна ўзялася за ўзмацненьне сваей зброі мілітарнай і мабілізуе ў гэтым кірунку й народы эўрапэйскага Захаду. Сумным затое ёсьць тое, што эўрапэйскі Захад яшчэ ня ўсьведаміў, як сьлед, усей загрозы бальшавіцкай небясьпекі, а калі й усьведаміў, дык не здабыўся яшчэ на няўхільныя ахвяры, каб ёй належна супрацьставіцца. Таму гістарычнае заданьне Амэрыкі, якое яна перад сабой сяньня паставіла й якое бясспрэчна выканае, значна ўскладняецца й абцяжарваецца ейнымі саюзьнікамі ў Эўропе.

**Язэп Каранеўскі**

# Творы Максіма Багдановіча 17)

### НА МОГІЛКАХ

**(Рандэль)**

Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах
Ля склепу. Часам лёгкі пах
Сюды даносіцца ад рожы.
Паўсюль крыжы, вянкі... Чаго-ж і
Тут, дзе магілы, сьцень і прах,
Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах?
І ціха думаў я: быць можа,
Любоў, палёгшы у трунах,
Перамагла і сьмерці жах!
Спачнеце-ж! Вечна на старожы
Амур і сумны і прыгожы.

### У СТАРЫМ САДЗЕ

Прыгожы сад, які любіў Вато:
Між дрэў зялёных статуі паўсталі,
Вось грот, гадзіньнік сонечны, а далей
Фантан... Напэўна саду год із сто.

Стаю я, сьню пра зьнікнутыя дні
І кніжку новага пісьменьніка трымаю.
У забыцьці я разгарнуў... і закрываю,
Зьдзіўлёны ўкрай, што гэта не Парні.

### ТРЫЯЛЕТ

Мне доўгае расстаньне з Вамі
Чарней за Вашых чорных кос.
Чаму-ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстаньне з Вамі?
Я ўвесь зьбялеў ад горкіх сьлёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстаньне з Вамі
Чарней за Вашых чорных кос.

### УСПАМІН

«Дзень гэты — так пісаў Катул —
Я белым каменем адзначу».
Дасюль я рад, калі пабачу
Алею, дзе пад ліпаў гул
Мне парасонкам на пяску
Штось ручкі мілыя пісалі.
Што — не скажу. Вы адгадалі,
І словы ўжо на языку.

### КУПІДОН

Ад спомінаў дзіцячых лет
У маёй душы застаўся сьлед.
Я помню, як бывала рада
Мне сэрца плітцы шакаляды,

Абгорненай з усіх старон
Паперкай яркай зь візэрункам:
Там пад «загадкавым малюнкам»
Пытаньне йшло: «Дзе Купідон?»

Я не забыўся, як із ёй
Сядзеў я ў келятцы маёй,
Страх заціўлены загадкай,
Хоць закусіўшы шакаляткай.

Бо тут-жа, тут хаваўся ты!
Бо можа зь сетак малявідла,
Што ўжо даўно вачом абрыдла,
Твае праглянуць мне чырты,

І ўстанеш ты перада мной
З крылатай, гостраю стралой,
Мне ў сэрца мецячы, і з лукам,
Пяяць гатовым поўным згукам!

Ды ўсё-ткі быў нябачны ён,
Хоць я і сьлёзы ліць хапаўся.
Што-ж ты вачом не паказаўся,
Ўладар каханьня, Купідон?

З часоў тых шмат гадоў прайшло,
Прайшло — і зельлем парасло,
І зноў забытае пытаньне
Ўстае ў суворыстым чаканьні.

Я Купідона зноў шукаць
Бяруся скварна і рухава,
Ды так няскладна гэта справа,
Што лепш аб ёй маўчаць.

* * *

Сьмех і гоман. Малпачка ля ганку
Удае, «як баба ходзіць па ваду»,
І гудзе «таску па родзіне» шарманка;
Я-ж да птушкі ў клетцы «шчасьце» брацъ іду.
Ды з такім стараньнем дзюбкаю выймае
Птушка шэрая білецік сіні мне,
Што душа міжволі верыць ёй жадае:
«Не спадманеш?» — «Не!»
«Дапраўды, птушка, не?»

*Кнігапіс*

# В. Рагуля. „Успаміны". Нью Ёрк, 1957, бач. 128

У Нью Ёрку, сын сьв. пам. Васіля Рагулі, былога беларускага пасла й сэнатара польскага сойму, інж. М. Рагуля выдаў кніжку бацькавых успамінаў, напісаных былым сэнатарам на эміграцыі, у Лювэне (Бэльгія), у 1953 годзе. На запушчаным полі беларускае мэмуарнае літаратуры апошніх год гэта бадай што першы загараны загон. Трэба спадзявацца, што Васіль Рагуля зрабіў добры заклік да шляхотнага апошняга абавязку **кажнага** грамадзкага дзеяча перадаць свайму грамадзтву, асабліва ягонаму малодшаму пакаленьню, сваё жыцьцёвае дазнаньне.

«Я буду шчасьлівы, — канчае «Прадмову» да сваіх «Успамінаў» былы беларускі сэнатар, — калі напісанае мною ўсьцеражэ нашых сучасных і будучых палітычных ды грамадзкіх дзеячоў ад паўтарэньня памылак іх бацькоў». А трэба сказаць, што «перасьцярогаў» гэтых ніхто з сучасьнікаў Васіля Рагулі нам не сыгналізуе. Чаму? — Можа ня было паразаў і перамог, можа ня было ці няма небясьпекі? «Успаміны» пярэчаць у першую чаргу якраз гэтаму. Кажная балонка кніжкі — гэта сьветка вялізарнае нацыянальнае драмы нашага народу, гэта маленькае вакенца ў закулісьсе гісторыі й палітычных махінацыяў на нашых землях, гэта тая **перасьцярога** перад «паўтарэньнем памылак бацькоў».

Цяпер вось, прыкладам, некаторыя польскія эміграцыйныя колы ўздымаюць прапагандовы шум вакол былых «крэсув всходніх». Хто-ж гэта набіваецца да нас у гаспадары? Зь якой ізноў «вольносьцяй» стаяць Палякі перад дзьвярыма нашае хаты? А ці ня варта глянуць, з чым яны **былі** ўжо ў нас? Ці ня ў мінуўшчыне адказ на будучыню? Дык хто-ж тады больш упаўнаважаны даць адказ на гэтае пытаньне, як не чалавек, што адчуў на сабе з найбліжэйшае інстанцыі сутнасьць гэнае «нашэй і вашэй вольнасьці»? І былы пасол і сэнатар дае на гэта вельмі-ж нядвузначны адказ. Дый ня толькі на гэта.

У нас нядаўна ў «Бацькаўшчыне» вялася доўгая й цікавая дыскусія пра «сьвятло й цені «Грамады». Ставілася кардынальнае пытаньне: чым была «Грамада» й якую ролю яна згуляла ў беларускім нацыянальным руху? Васіль Рагуля расказвае ў сваіх «Успамінах» якраз пра самюсенькі зародак «Грамады». Расказвае аўтар шмат пра што: пра дзьве выбарчыя кампаніі ў Заходняй Беларусі, пра запалоханасьць сялянства, пра наважаныя намаганьні нялічнае беларускае інтэлігенцыі праламаць лёд пасыўнасьці ў народзе, пра вераломнасьць і подступ польскае ўлады, пра жыцьцё Беларускага Пасольскага Клюбу, пра ягоных сяброў дый пра сяго-таго з нашых сучасьнікаў і знаёмых.

Бязумоўна, невялікая памерам кніга ня можа прэтэндаваць на поўны адказ на ўсе пытаньні «польскага» разьдзелу нашае гісторыі — абавязкам іншых якраз будзе дапоўніць гэтыя адказы, а магчыма й спраставаць некаторыя.

Напісаны «Ўспаміны» жыва, цікава, каларытна, з анэкдотамі, пагаворкамі, часамі з гумарам. Кажны павінен прачытаць іх. Кажны павінен будзе задумацца над шмат чым у іх. Бо — яшчэ раз — адказ на будучыню ляжыць у нашым прошлым.

Добрую справу зрабіў сваім часам др. Б. Рагуля, настойліва падбадзёрваючы свайго дзядзьку напісаць успаміны. Добрую справу зрабіў былы беларускі пасол і сэнатар Васіль Рагуля, пакідаючы па сабе сваё палітычнае дазнаньне. Добрую справу зрабіў ягоны сын інж. М. Рагуля, перадаючы гэтае дазнаньне ў нашыя з вамі рукі.

**Я. Запруднік**

# Новае пра беларускіх партызанаў

**Ад Рэдакцыі:** У ньюёрскім выдавецтве А. Прэгера толькі што выйшла кніга пад рэдакцыяй Сымона Воліна й Робэрта Сласэра (by Simon Wolin and Robert M. Slusser) «Савецкая тайная паліцыя». (The Soviet Sekret Police). Як падаецца ў «Прадмове» да гэтага выданьня, «галоўная частка кнігі складаецца зь дзевяцёх нарысаў (essays), напісаных былымі савецкімі грамадзянамі. У іх закранаюцца розныя аспэкты дзейнасьці савецкае тайнае паліцыі, пра якія аўтарам ведама асабіста. Рэдактары кнігі далі да гэтага гістарычны агляд, падаючы гісторыю тайнае паліцыі ад 1917 году да 1956, абаснаваную на ўсіх даступных крыніцах».

Кніга «Савецкая тайная паліцыя», зусім незалежна, яшчэ раз пацьвярджае, адносна нешматлікія, весткі, падаваныя раней нашай прэсай на эміграцыі, пра наважнае змаганьне беларускіх нацыянальных партызанаў з маскоўскімі акупантамі Беларусі.

Ніжэй зьмяшчаем у перакладзе найбольш цікавыя месцы кнігі, дзе гаворыцца пра нядаўнюю й сучасную Беларусь (б. 23, 231—232).

☆

«Асаблівым полем дзеяньня тайнае паліцыі быў нацыяналізм, што адрадзіўся сярод нацыянальных меншыняў Савецкага Саюзу. На Ўкраіне, у **Беларусі** (падкр. нашае — **Рэд.**) ды ў іншых мясцох, гады вайны, ня гледзячы на трагічнае дазнаньне зь нямецкай акупацыяй, прынесьлі магчымасьць выказаць нацыянальную сьведамасьць у форме недазволенай пад савецкім рэжымам. Пасьля вайны, узброеныя нацыянальныя партызаны ў шмат якіх з гэтых краёў выказалі супраціў савецкім намаганьням накінуць свой кантроль. Нацыянальныя імкненьні выявіліся таксама ў мастацтве ды ў літаратуры. Тайная паліцыя ўзяла на сябе заданьне выкараніць партызан і падтрымлівала партыйныя ды іншыя ўстановы ў змаганьні з выявамі нацыяналізму ў інтэлектуальным жыцьці...

Ворганы дзяржаўнае бясьпекі пачалі ўжываць рэпрэсыўныя меры адразу-ж пасьля вайны, каб падмацаваць рэжым ды здушыць народны супраціў у Летуве, Лацьвіі, Эстоніі й Малдавіі, таксама як у Заходняй Украіне й на **Беларусі** (падкр. наша — Рэд.). У дадатак да мераў, ужываных агулам па цэлым Савецкім Саюзе, дзейнасьць гэтая яшчэ мае: масавыя вывазы ў Паўночны Сібір і Цэнтральную Азію варожых і палітычна шкодных элемэнтаў жыхарства: ліквідацыя замажнейшых гаспадарак і вываз цэлых сем'яў г. зв. кулакоў ды тых, хто салідарызаваўся зь імі, разам з прымусовай калектывізацыяй сялянства; збройнае здушэньне палітычных бандаў (антысавецкіх партызанаў і крымінальных бандаў ды дэструкцыя іхных базаў і кіравецтва; выкрыцьцё асобаў, што ўдзельнічалі ў антысавецкіх партызанскіх рухах, іхных сваякоў і тых, што памагалі ім; урэшце, пранікальне спэцыяльных агентаў у жыхарства і ў партызанскі рух. Заданьне гэтых агентаў — ня толькі зьбіраць весткі, але таксама падрываць партызанскі рух: дэмаралізацыяй партызан знутры, правакацыяй, заманваньнем партызан пад удары аддзелаў МВД, пераманваньнем на свой бок кіраўнікоў і ўплывовых сяброў партызанскага руху й г. д.

Усё гэта для ворганаў дзяржаўнае бясьпекі станавіла сабой нагэтульні важную дзялянку дзейнасьці, што трэба было стварыць пасьля вайны некалькі дадатковых дывізіяў МВД для адмысловых прызначэньняў. Гэтыя дывізіі былі пасланыя на вышэй пералічаныя тэрыторыі, каб забясьпечыць пасьпяховую работу мясцовых ворганаў дзяржаўнае бясьпекі.

Апрача гэтага, у раёнах, дзе партызаны былі актыўнымі, абласныя й рэспубліканскія ворганы дзяржаўнае бясьпекі стварылі адмысловыя «Аддзелы змаганьня з «бандытызмам» (у скароце ББ).

Былі таксама створаныя адмысловыя збройныя адзінкі з партыйцаў, камсамольцаў і беспартыйных актывістых спасярод жыхарства ўспомненых тэрыторыяў. Гэтыя адзінкі ведамыя як «народныя абаронцы» або, як яны былі празваныя мясцовым жыхарствам, «истребки», з расейскае «истребитель» (зьнішчальнік). У заданьне гэтых адзінак уваходзіць: змагацца з антысавецкімі партызанамі (у савецкай тэрміналёгіі — «бандыты»); ахоўваць інсталяцыі й прадстаўнікоў мясцовае ўлады; судзейнічаць міліцыі, ворганам дзяржаўнае бясьпекі й аддзелам МВД; памагаць мясцовым уладам праводзіць розныя палітычныя, адміністрацыйныя, грамадзкія й гаспадарчыя мерапрыемствы.

Пры гэтым асабліва важна адцеміць, што спасярод гэтых «народных абаронцаў» сябры камсамолу й партыі, не гаворачы ўжо пра гэтак званых беспартыйных актывістых, у радзе выпадкаў перайходзілі на бок антысавецкіх партызанаў.»

(З кнігі **«Савецкая тайная паліцыя»**)



**Уладзімер Дудзіцкі**

# Апошні ліст каляндара

Апошні ліст каляндара
Перахінуў на дзень аджыты.
Пара, мой верш, табе, пара
Спатоліць гневу боль сукрыты.

Імчыся, думамі наліты,
Здаля да роднага двара
І прывітай гаспадара,
Каб ён, няволяю прыбіты,
Ачнуўся... Рукі да зары
Узьняў... Зямлі гаспадары —
Сыны нявольніцы Айчыны —
Сваімі прагнымі вачыма
Сустрэнуць проблiскі сьвятла
І над сьлядамі бур і тла

Мячы скрыжуюць прад зарою.
А зь імі позьняю парою —
У міг дванаццатай гадзіны
Я п'ю за шчасьце Нарадзінаў
Мае пакутнае Радзімы...

На чорным цемры перакаце
Кажу: мой родны, любы браце,
Каб мроі нашыя збыліся —
За Прыйсьце сьветлае маліся!

Я п'ю за шчасьце Нарадзінаў
Мае пакутнае Радзімы!

31. 12. 57.



**Выканальніцы «Сьняжынак» на ялінцы ў Саўт Рывэр — Нью-Брансвік.**
**(Рэпартаж глядзі на 4-ай бачыне)**

# Зьбіраньне нацыянальнага мастацтва

Здараецца досыць часта, што розныя амэрыканскія арганізацыі жадаюць, каб БАЗА прыняла ўдзел у выстаўцы нацыянальных мастацкіх вырабаў. Той, хто возьме на сябе абавязак даставіць гэткія вырабы, мае перад сабой пару гарачай дзейнасьці, каб гэтыя вырабы зыбраць. (Ня буду апісваць драбязна, бо хто прабаваў гэта рабіць, ведае). Каб палягчыць сабе ў гэтай справе, часта было чуць зычэньне, каб мець вырабы прыгатаваныя на прыпадак патрэбы. Можна гэта зрабіць такім парадкам: Сп-ня Клінцэвічыха згаджаецца трымаць у сябе скрыню, у якой былі-б зложаныя гэткія паказы нашага мастацтва. Дастаўце сп-ні Клінцэвічысе вырабы, якія трымаеце на дне сваіх скрыняў, і дастанеце расьпіску, што вашыя рэчы зложаныя часова ў яе і яны далей належаць да вас. Або можаце іх дараваць Жаноцкаму Т-ву БАЗА. Калі ня маеце нічога гатовага, дык можаце зрабіць. Ёсьць кніга мастацкіх беларускіх вырабаў, дзе можна паглядзець узоры. Трэба, каб экспанатаў было досыць і з усіх галінаў мастацтва. Як прыклад, прывяду наступнае: нацыянальныя ўборы, асабліва тыя, што прывезеныя з бацькаўшчыны, тканіны, ручнікі, вышыўкі, паясы, рукавіцы, каронкі, рэчы зробленыя із саломы, зь дзерава, з гліны, маляванае судзьдзё, абразы, лялькі і іншыя.

Просьба да ўсіх мастакоў, прафэсыянальных і аматараў: падтрымайце гэтую акцыю й памажэце зрабіць выстаўку, каторая гаварыла-б сама пра духовае багацьце нашага народу.

Калі хто хоча, каб выстаўленая ягоная (або ейная) рэч была на продаж, няхай падаець цану.

Адрыс Сп-ні Клінцэвічыхі:
Mrs. D. Klincevich
1148 Blake Ave
Brooklyn 8, N. Y.

**Жаноцкая Сэкцыя БАЗА**

---

### СПОЎНЕНАЕ АБЯЦАНЬНЕ

Праз радасны заліты сьветам бор
Праходзіць наспа жоўтая чыгункі.
Як роўна рэйкі, быццам на малюнку,
Ляглі удоўж! Як ярка сэмафор
Здалёк зялёным шклом гарыць ад сонца!
Як тэлеграфныя слупы гудзяць!
Пабач — дразды на дроце іх сядзяць,
А дрот зіяе лепей за чырвонца!
І вось, калматай лапаю ледзь-ледзь
Ламаючы апалыя галіны,
Сюды марудна з-за кустоў маліны
Выходзіць буры малады мядзьведзь.
Паветра нюхае; нядбала паглядае
Лянотнымі вачамі, быццам сыпць,
Удаль, пачуўшы нейкі гул, глядзіць
І ўраз, украй зьдзіўлёны, замірае...
Ледзь чутна рэйкі тонкія дрыжаць;
Зь вясёлым шумам у бары зялёным
Імчацца за вагонамі вагоны;
Сіпіць машына, іскры зігацяць,
Дым белы цягнецца ў гары стругою;
Ад сьветла сонца зьзяе сталь і медзь;
З вакон сьмяюцца людзі... А мядзьведзь
Стаіць і чуе крык мой: «Верш за мною!»

---

### ДЗЕД

Так цёпла цэлы дзень было,
Што дзед — і той сьцягнуўся зь печы,
Ля рэчкі сеў, дзе больш пякло,
І грэў пад старой сьвіткай плечы.
Сінеўся бор, цякла вада,
Скрозь пахла мёдам і травою...
А дзеду нат і не шкада,
Што хутка будзе ён зямлёю.

* * *

Белым цьветам ускрыта каліна,
Ды бялей за каліну Марына.
— «Ах, чаго ты, як месяц, ясна?»
— «Я ня ведаю» — кажа яна.

Раз вярнулася позна Марына,
Ў валасох-жа бялее каліна.
— «Ах, чаго ты, як месяц, дзіўна?»
— «Я ня ведаю» — кажа яна.

Ды ня век расьцьвітае каліна, —
Не ўплятае ўжо цьвету Марына.
— «Ах, чаго ты, як месяц, сумна?»
— «Я ня ведаю» — кажа яна.

А калі абляцела каліна,
Атруцілася зельлем Марына.
І, як месяц далёкі, бляднa
Ў белай труне ляжала яна.

* * *

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе ня пушчалі зь ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй навет мовы няма.

Збудзіўшыся з грознай бяды,
Ўвесь поўны сьмяротнай жуды,
Ты крыкнуць ня вольны: «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце-ж вы гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

* * *

### С. ПАЛУЯНУ

**(Трыялет)**

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць сьвет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі.
Красу, і сьветласьць, і простор
Шукаў — і, ад усіх далёкі,
Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.

---

### ПРОСЬЦЕНЬКІ ВЕРШЫК

Няяркая, маленькая вясёлка
Ўкруг месяца ледзь бачна зіхаціць;
Яе ня кажны навет і прыкмеціць,
Хто ў гэты час на неба паглядзіць.
Няяркая, маленькая вясёлка! —
Праз гэта ты і даспадобы мне,
Бо я адну з табою долю маю —
Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.

---

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

### ЯЛІНКА

### (САЎТ РЫВЭР — НЬЮ-БРАНСВІК)

А злажылася вельмі добра. Некалькі дзён перад гэтым выпаў сьнег і абяліў зямлю. Днём было досыць холадна, а начамі нат і маразы. Як на гэтую ваколіцу, дык гэтак рэдка здараецца.

Пад такі спрыяльны настрой мясцовы аддзел БАЗА зладзіў 11-га студзеня ялінку для дзяцей, а пасьля вячэрусустрэчу для бацькоў і наагул старэйшага грамадзтва.

У праграму мастацкай часткі ўвайшло даволі шмат цікавых нумароў. Пры адпаведным настроі й пры багатай дэкарацыі дзеці паказалі абразок калядный ночкі ў Віфлееме, ноч нараджэньня Хрыста. Наратарам, а адначасова й аўтарам тэксту быў сп. В. Стома.

Не малое ўражаньне зрабіў на прысутных абразок-танец сьняжынак. Словы — Зьмітрака Бядулі, танец апрацавала сп. Вера Кабушка, касьцюмы — спні М. Манькоўская й Л. Гутырчык. Удзел бралі наймалодшыя дзеці ад 4 да 8 гадкоў.

Бель убораў і дробныя постаці дзяцей рабілі запраўднае ўражаньне сьнегу-мяцеліцы.

Дапоўнілі праграму дэклямацыямі дзяцей: Юркі Азаркі, Колі Швэда, і Васіля Бойчука. Яны выступілі першы раз і выйшла ўдала. Пажадана было-б чуць іх у далейшым на іншых беларускіх урачыстасьцях. Для старэйшых былі вершы Янкі Купалы: «Навагоднія жаданьні» — у дэклямацыі Ані Кажуры й мэлёдэклямацыя «Брату ў чужыне».

Найбольшай уцехай для дзяцей быў прыход Дзеда Мароза з падарункамі.

Пасьля мастацкай часткі для дзяцей, пачалася ня менш цікавая частка для старэйшых — супольная вячэра.

Потым пад добрую гучную музыку прысутныя разварушылі свае косьці й намучылі ногі. І калі ўжо здавалася, што ўсе перамучаныя й маюць досыць скокаў, у залю ўліліся гукі «Лявонізі» з акардыёну Герды Кабушкі. Быццам узьнятыя віхром, падарваліся прысутныя й кінуліся ў «Лявоніху». Здавалася, што прасторная заля зьменшылася й скакаць было цясьней. бо да беларускага народнага танцу пайшлі ўсе — і малыя й старыя.

Разыходзіліся гучна, весела, з настроем.

А сяньня яшчэ больш вясёлы настрой мае скарбнік аддзелу БАЗА, бо імпрэза дала звыш 70 даляраў чыстага даходу.

**У. Кабушка**

### КАЛЯДЫ Ў МАНЧЭСТЭРЫ

У аўторак 7-га студзеня Беларусы Манчэстэру супольна сьвяткавалі праваслаўныя Каляды. Сьвяткаваньне ладзіла ўправа мясцовага аддзелу Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці.

А гадз. 12-й у англіканскай царкве сьв. Яна пратаерэй а. А. Крыт адслужыў сьв. Літургію.

Пасьля Багаслужбы ў сьвятліцы мясцовага Беларускага Дому адбыўся супольны абед, а для дзяцей ў вадной з заляў была падрыхтаваная ялінка.

Урачысты абед пачалі малітвай, пасьля чаго сп. Яськевіч прывітаў прысутных ад імя мясцовага аддзелу Брацтва й аддзелу ЗБВБ. Айцец Крыт ў сваім слове схарактарызаваў беларускія калядныя абрады й традыцыі. На прапанову айца было сабрана 7 фунтаў і сем шылінгаў на будову беларускае праваслаўнае царквы ў Аўстраліі. Потым была разыйграна малая лятарэя, даход зь якое быў пераказаны аддзелу Брацтва.

Вечарам зьявіўся Дзед Мароз і раздаў калядныя падарункі дзеткам, якія яму ў замен сьпявалі, дэклямавалі вершы й танцавалі.

Вечар прайшоў у вельмі мілай сяброўскай атмасфэры й пакінуў незабыўнае ўражаньне.

**М. Стаўпіскі**

### КАЛЯДНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У БРАДФОРДЗЕ

Захаваньне народных традыцыяў — гэта азнака лучнасьці з Бацькаўшчынай. Кіруючыся гэтым Беларусы з Брадфорду (Англельшчына) й ваколіц сабраліся ў сыботу вечарам 11 студзеня, каб супольна сьвяткаваць Куцьцю. У прыгожа прыбранай залі Беларускага Дому ўжо зараз-жа пасьля абеду сп-ва Міхалюкі ўзяліся за падрыхтову вячэры. Хутка праляцеў час і ўжо каля пятай гадзіны пачалі зыходзіцца больш цікавыя, каб паглядзець на падрыхтоўку. Неўзабаве пачуліся й галасы дзяцей, што зь нецярплівасьцяй чакалі на Дзеда Мароза. Усё гэта стварала сьвяточны настрой і кажны думкамі пераносіўся на Бацькаўшчыну, дзе ў мінулым таксама чакаў на гэты сьвяты вечар.

Сьвята ўрачыста адкрыў старшыня Брадфордзкага аддзелу ЗБВБ. Наступна прывітальнае слова сказаў усімі паважаны айцец Аляксандар. На заканчэньне айцец прачытаў Архіпастырскае Каляднае Пасланьне.

Пасьля супольнае малітвы госьці прыняліся за сьвяточную вячэру. Не прайшло шмат часу, як у дзьверы застукаў і Дзед Мароз. Дзеці абступілі яго з усіх бакоў, чакаючы на падарункі. Яны аднак ведалі, што тут недастаткова толькі падзякваць за падарунак. а таму й былі гатовыя да дэклямаваньня вершаў і сьпяваньня. Гэта запраўды зрабіла прыемнае ўражаньне на прысутных.

Дарослыя тымчасам падсілкаваўшыся, пачалі таксама сьпяваць калядкі. Усе чуліся адной сям'ёй, сям'ёй дружнай і згоднай.

На прапанову а. Аляксандра адбылася зборка грошай на пабудову царквы БАПЦ у Аўстраліі; было сабрана 14 фунтаў і 18 шылінгаў.

У гутарках з гасьцьмі чулася задаваленьне, што так удала адбыўся гэты вечар.

**А. Шацько**

### У ЗША

Мінулі калядныя сьвяты, а зь імі — сьвяточнае ажыўленьне. Далейшыя падзеі ў грамадзкім жыцьці пойдуць пад знакам сакавіковых угодкаў — саракавых — ды пад знакам будзёншчыны — аж да Вялікадня.

Пачынаючы ад найсьвяжэйшага, і назад, вось што можна было-б запісаць у хроніку нашага бытаваньня, галоўна, у Нью-Ёрку. Калі пра каго ці пра што ня спомніў, хай іншыя прыгадаюць-дапоўняць.

#### Аддзел ЗБМ у Нью-Ёрку зладзіў «ялінку моладзі»

У сыботу, 11 студзеня, у прасторнай залі бруклінскае ІВКА, зыбраліся сябры й сяброўкі ньюёркаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ,каб у гульнях і скоках правесьці традыцыйны «калядны вечар». Калядкі, «Крыжачок» зь «Лявоніхай» (танцуюць усе!), узаемныя падарункі ды вясёлыя гульні занялі ўвесь вечар. Добра чулася моладзь у сваім асяродзьдзі, прыемна было старэйшым. Шкада толькі. што гэтых апошніх было вельмі-ж няшмат, хоць усе былі запрошаныя. Датычыць гэта асабліва да тых, якія часьцяком любяць пакрытыкаваць малодшых, самі-ж затое і палец аб палец ня стукнуць, каб падтрымаць добрую ініцыятыву моладзі.

#### Ялінка для беларускіх дзяцей

Стараньнем Жаноцкае Сэкцыі БАЗА ў Нью-Ёрку (у бруклінскім будынку ІВКА) 11 студзеня паабедзе адбылося «каляднае спатканьне» наймалодшых Беларусак і Беларусаў. Доўга некаторым даводзілася чакаць на гэтую вялікую падзею, каб атрымаць дакляраваныя Дзедам Марозам лялькі, самалёты ды іншыя ўзнагароды за паслухмянасьць маме й тату. Вялікім нумарам праграмы, апрача падаркаў, была батлейка зь біблійнымі ды бытавымі сцэнкамі пад кіраўніцтвам сп-ні М. Станкевіч паводля этнаграфічных зборнікаў Шэйна й Раманава. З затоеным дыханьнем ўзіралася малечая аўдыторыя на падзеі Раства Хрыстовага й Антона з казой. Найлепшым прызнаньнем для старэйшых ды для малодшае моладзі (якая брала актыўны ўдзел у правядзеньні спэктаклю) з боку наймалодшае публікі былі іхныя песьні й дэклямацыі адважна й сьмела прадэманстраваныя ля ялінкі. Варта адцеміць, што частка касьцюмаў для батлейкі была пашытая нашымі жанчынамі, і гэтыя лялькі хай стануцца пачаткам сталага беларускага дзіцячага тэатру.

Мастацкія ўдачы былі замацаваныя супольнай пачосткай для навязаньня цясьнейшага знаёмства й лучнасьці.

#### Дэлегацыя БАЗА ў Вашынгтоне

7 студзеня сп. сп. К. Мярляк і Я. Запруднік наведалі ў Вашынгтоне кіраўнікоў адпаведных аддзелаў Амэрыканскае Інфармацыйнае Службы й Дзяржаўнага Дэпартаманту (міністэрства замежных справаў), каб перадаць ім дамаганьні Беларусаў што да некаторых аспэктаў дзейнасьці Амэрыканскае Інфармацыйнае Службы (U. C. I. A.). Дэлегаты БАЗА былі сустрэтыя зь вялікай прыхільнасьцяй ды мелі магчымасьць шырока выказацца ў справе рэфэраваных праблемаў. Пры абмяркоўваньні пытаньня беларускае мовы ў праграмах «Голасу Амэрыкі» выявілася, што некаторыя беларускія асяродкі (асабліва ў ЗША, як Чыкаго, Дэтройт і інш.) не патурбаваліся дагэтуль паслаць адпаведных мэмарыялаў. А гэта вельмі шкада, бо кажнае дамаганьне мае сваю вагу.

Апошняе падарожжа дэлегатаў БАЗА ў Вашынгтон яшчэ раз даводзіць, што трэба толькі настойлівасьці ў нашых дамаганьнях, а вынікі будуць пазытыўныя.

#### Із Старога ў Новы

Ужо колькі год запар, Управа акруговага аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку ладзіць у «Ленокс Гол» агульныя сустрэчы Новага Году. Гэтак замацоўваецца традыцыя ды дбаецца адначасна аб сваёй фінансавай гаспадарцы. Прыбытак ад гэткіх імпрэзаў (і сёлета добрых парусот даляраў чысьценькага) палягае на тым, што жанчыны самі рыхтуюць закусь (і свойскую пры гэтым: капуста з салам, халадзец...), а цэны білетаў (мужч. 7 дал., жанч. — 6) пакрываюць і «гатовы» стол.

Патанцавалі, пацалаваліся з Новым, яшчэ паскакалі крыху дый разыйшліся да наступнае сустрэчы.

З Новым Годам!...

#### Із зьвяздой па Нью-Ёрку

Моладзь ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА пастанавіла сёлета ўшанаваць беларускія Каляды калядоўшчыкамі. Калядавалі «на раты» — дзе-ж тут справішся за дзень! Функцыі механошы давялося выконваць скарбніку аддзелу, бо заміж каўбасаў ці пірагоў найвыгадней зьбіраць даляры — на ўладжаньне свае сьвятліцы. І зыбралі-ткі каля трох сотняў. Ці ня варта тады будзе й пра валачобнікаў падумаць?

#### «Бюлетэнь моладзі»

**Управа аддзелу ЗБМА ў Нью-Ёрку аднавіла выдаваньне свайго «Бюлетэню» сёлетнім студзенскім нумарам. Вельмі добра! Гэта дармо, што «Бюлетэнь» сьціпленькі, на аднэй балонцы. Куды важней, каб ён быў пэрыядычны. Гэта паказвае на рытм і выробляе рытм, а ў рытме і праца спорыцца.**

**«Бюлетэнь» інфармуе аб мясцовых зьявах жыцьця моладзі.**

#### Канцэрт П. Конюха ў Нью-Ёрку

21 сьнежаня маэстро П. Конюх даў канцэрт песьняў, прыбытак ад якога сьпявак ахвяраваў на ўладжаньне будынку Беларускага Рэлігійнага й Грамадзкага Цэнтру. Праграма канцэрту складалася зь твораў іншанацыянальных і беларускіх кампазытараў ды беларускіх народных песьняў. Акампаніяваў сьпеваку праф. І. Базылеўскі.

#### «Бюлетэнь БАПЦ у Кліўленьдзе»

Выйшаў першы прыгожа афармлены (нажаль, ратататарны) першы нумар царкоўнага бюлетэню, які яшчэ раз даводзіць аб вялікай жыцьцяздольнасьці беларускае грамады ў Кліўлендзе. У «Бюлетэні»: «Хрыстос родзіцца — слаўце» — настаяцеля Міт. Прат. М. Макарэвіча; «З жыцьця парахвіі»; «Сьпіс ахвярадаўцаў на пабудову царквы» (разам: 10690 даляраў) ды драбнейшыя паведамленьні з жыцьця беларускае праваслаўнае парахвіі ў Кліўленьдзе.

#### Новы Камітэт Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Нью-Ёрку

8 сьнежаня ў новаабытым будынку Беларускага Рэлігійнага й Грамадзкага Цэнтру быў праведзены сход пайнікаў Фонду Набыцьця Беларускае Царквы й Народнага Дому. Старшыня й скарбнік Камітэту сп. сп. М. Тулейка й Д. Клінцэвіч зрабілі справаздачу зь дзейнасьці Камітэту, за што сход удзяліў ім абсалюторыюм. Як вынікла із справаздачы, за будынак застаецца сплаціць 14 тысяч даляраў.

На сходзе было пастаноўлена замацаваць набыты будынак пры прыходзе БАПЦ. Адміністраваць будынкам мае нававыбраны «Камітэт Беларускага Грамадзкага Цэнтру», у які ўвайшлі: сп. сп. Я. Ніхаёнак (старшыня), М. Тулейка, М. Міцкевіч, А. Александровіч, П. Ганэцкі, Д. Клінцэвіч, В. Захаркевіч. У наглядную раду ўвайшлі: сп. сп. др. А. Орса, К. Мярляк і А. Протас.

#### Беларуска-Амэрыканская Фэдэральная Крэдытовая Каапэратыва (БАФКК)

10 сьнежаня ў Нью-Ёрку быў праведзены арганізацыйны сход, на якім было пастаноўлена заснаваць Беларуска-Амэрыканскую Фэдэральную Крэдытовую Каапэратыву, згодна з жаданьнем, выказаным на Сёмым кангрэсе БАЗА ўлетку летась. Неўзабаве арганізацыя мае быць залегалізаваная ды тады пачне сваю дзейнасьць. Самадапамаговы характар Беларуска-Амэрыканскае каапэратывы, калі яе належна паставіць на ногі ды належна да яе паставіцца, павінен быў-бы забясьпечыць і памыснае разьвіцьцё ды рост арганізацыі. І тады яна здолее стацца паважным дзейнікам як у грамадзкім жыцьці беларускае эміграцыі ў ЗША, гэтак і ў жыцьці кажнага Веларуса, якому свая Каапэратыва можа заўсёды быць шчодрай крыніцай матар'яльнага прыбытку.

**Я. Запруднік**

# Зьдзекі зь беларускай мовы

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

Прыкра, што ў нашай старэйшай навучальнай установе, дзе працуюць буйнейшыя беларускія мовазнаўцы, да голасу якіх прыслухоўваецца ўся грамадзкасьць рэспублікі, дзе рыхтуюцца кадры нацыянальнай навукі і культуры, выдаецца такая няпісьменная газэта. Прыкра і тое, што людзі, якія не валодаюць беларускай мовай, будуць працаваць у беларускіх выданьнях...

Дубовай, ня жывой, а нейкай выдуманай газэтнай мовай пішуцца часам артыкулы ў абласных і рэспубліканскіх газэтах. Відаць, баючыся кінуць камень у свой агарод, ні ў вадным газэтным аглядзе ні абласныя, ні рэспубліканскія газэты ня пішуць аб мове раённых газэт.

Калі не надаецца сур'ёзная ўвага вывучэньню беларускай мовы на аддзеле журналістыкі, дык, можа, гэта робіцца хоць на аддзеле беларускай мовы і літаратуры, які рыхтуе выкладчыкаў для сярэдніх школ? Не. Там таксама выкладаньне на роднай мове не вядзецца (выключэньне — беларуская мова і літаратура).

Дык пры такой пастаноўцы выкладаньня хіба-ж мала будзе сярод тысяч нашых сяньняшніх студэнтаў Наталяў Адамаўных?

Каб наша беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва, думаецца, што першым практычным крокам да гэтага павінна быць увядзеньне выкладаньня ўва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове.

Вядома, вывучэньню рускай мовы ў нас павінна надавацца і надалей самая сур'ёзная ўвага, бо гэта мова зносін між усімі нацыянальнасьцямі ў нашай краіне, мова на якой надрукаваны найвялікшыя дасягненьні чалавечага розуму.

Але-б беларуская мова не павінна адыходзіць на другі плян».

**Барыс Сачанка**
**студэнт аддзелу журналістыкі БДУ імя В. І. Леніна**

*

Усё вышэй пададзенае мне прыгадалася, калі я пачаў чытаць адзінаццатую кніжку часапісу «Дружба народаў». Там сярод упяршыню апублікаваных матарыялаў В. І. Леніна (а менавіта, у праекце рэзалюцыі Цэнтральнага Камітэту партыі аб Савецкай уладзе на Ўкраіне, які прапаноўваў вялікі правадыр) я знайшоў такое ўказаньне:

«...Члены РКП на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца і гаварыць ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы русыфікатарскім спробам адцясьніць украінскую мову на другі плян, ператвараючы яе ў сродак камуністычнай адукацыі народных мас. Неадкладна павінны быць прынятыя меры, каб ува ўсіх савецкіх установах мелася дастатковая колькасьць служачых, якія-б валодалі ўкраінскай мовай, і каб у далейшым усе служачыя ўмелі гаварыць на ўкраінскай мове».

Гэта ленінскае палажэньне поўнасьцю адносіцца і да нашай беларускай мовы, як і да моў усіх народаў нашай краіны.

*Фэльетон*

# *Мэдалі, мэдалі...*

**З радыёвай хвалі «Вызваленьне»**

Дарагія Грамадзяне!

«Радасьць працоўных беларускай вёскі» — гэткі загаловак мае артыкул у «Праўдзе»! І сапраўды, прычынаў да «радасьці» — хоць адбаўляй: У сталіцу Беларусі сваёй уласнай асобай прыехаў наш родны Мікіта Хрушчоў і прывёз з сабой цэлы вагон дыплёмаў ды мэдаляў. На станцыі роднага Мікіту з хлебам і соляй віталі родныя: Мазуроў, Козлоў, Кісялёў, Гарбуноў, Сурганоў, Філімоноў, Золаў і іншыя знатныя даяркі ды сьвінаркі. Усе высокія міністры пераважна канчаюцца на «оў», сярод знатных сьвінарак і даярак прозьвішчы пераважна фальклёрныя, як Жыгалка, Будай, Ільлічук.

Як паведамляе «Праўда», ужо на станцыі была вялікая радасьць і ўздым. Праўда, Хрушчоў ня еў ні хлеба, ні солі, але, як ведаем, пазьней усё гэта дабранае таварыства паехала ў горад, а там, пэўна-ж, да хлеба і солі знайшлася і Мікітава ўлюбёная пярцоўка, і селядцы. І была яшчэ большая радасьць і большы ўздым. І нядзіва — 32 новых герояў і аж 4 970 мэдаляў атрымала Беларусь ад Хрушчова! Гэта вам, Грамадзяне, не драздзы ў макулішчы! Праўда, беларускія трактары, самаходы, лён, пянька, сала і іншае дабро праз Маскву ідуць у Эгіпет, Сырыю, Кітай ды іншыя далёкія краіны, але затое сам Хрушчоў прывозіць з Масквы ў Менск вагоны дыплёмаў і мэдаляў. Значыцца разрахунак чысты...

Але вернемся да менскіх урачыстасьцяў. Родны Мікіта ня быў-бы Хрушчовам, каб пры гэтай нагодзе не адчыкрыжыў некалькі некалькігадзінных прамоваў. Пазьней, прапарцыянальна да займанай пасады, гаварылі іншыя. Прыкладам, знатная даярка ці сьвінарка магла гаварыць ня больш дзесяці хвілін. Сьвінарка павінна была не знаходзіць слоў удзячнасьці для «роднай» партыі і «роднага» савецкага ўраду, але за тое павінна была знайсьці словы абяцаньня партыі і ўраду працаваць яшчэ больш і яшчэ больш здаваць, адддаваць, наддаваць, дадаваць... Што-ж больш магла сказаць бедная знатная сьвінарка або даярка?...

Пры нагодзе варта задумацца, чаго Хрушчоў турбаваў сваю шаноўную асобу гэтым падарожжам пры такой сьцюдзёнай нагодзе?

Вось-жа я, Грамадзяне, думаю, што тут справа ня толькі ў мэдалях. Тут сабака глыбей закапаны... Ці гэтыя гонар часам ня ў сувязі з выбарамі? Як ведаем падчас папярэдніх выбараў у Вярхоўны Савет БССР беларускімі галасамі былі выбраныя Варашылаў, Хрушчоў, Молатаў, Кагановіч, Маленкоў, Сабураў, Мікаян, Швэрнік, Пярвухін, Суслаў і іншыя выдатныя «беларусы»...

І толькі падумаць, што-б магло здарыцца, каб гэтыя ўсе «родныя» правадыры «праваліліся» ў наступных выбарах!.. Рэч зразумелая, было-б вялікай палітычнай нетактоўнасьцю ізноў выбіраць Маленкава, Молатава і Кагановіча, але ня меншай нетактоўнасьцю было-б ня выбіраць Хрушчова, Суслава або Мікаяна. Што-ж яны будуць рабіць? Думаеце, што пойдуць бегаць за знатных даяроў і, як кажуць, даіць курэй? О, не, Грамадзяне, да гэтакай кампраmітацыі «роднай» партыі дапусьціць нельга! Ужо за гэтых 5 тысяч дыплёмаў і мэдаляў Хрушчова варта выбраць.

Ды, нарэшце, ці-ж можна ня выбіраць Хрушчова, калі на выбарчым сьпіску, як заўсёды, стаіць толькі адна партыя і адзін Мікіта Хрушчоў? Тут у выбарах толькі адзін выбар: галасаваць за Хрушчова, бо і так і так галасаваць мусіць 99,9 працэнтаў выбаршчыкаў. У нас дэмакратыя!...

І хто скажа, што гэта ня выяўленьне бязупынных клопатаў «роднай» партыі аб шчасьці падсавецкіх людзей? Пашто заняты будаваньнем камунізму калгасьнік ці работнік мае сушыць галаву, за каго галасаваць? Мудрая партыя ўсё прадбачыла, аб усім падумала, дала дырэктывы.

Не здарма-ж нядаўна «Праўда» нас пераконвала, што «савецкая выбарчая сыстэма — найдэмакратычнейшая ўва ўсім сьвеце»...

**пс**

### ПАПРАЎКА

У абвестцы Беларускай Агенцыі зьмешчанай у № 51-52 (385-386) памылкова надрукавана, што Беларускі Каляндар, выдадзены ў Беластоку, мае 28 бачынак.

У запраўднасьці гэты **каляндар мае 128 бачынак.**

### КРУЖЭЛКІ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

У папярэдніх н-рох «Бацькаўшчыны» была пададзена абвестка аб кружэлках М. Забэйды-Суміцкага ў якой пісалася, што кажная кружэлка каштуе 10 шылінгаў або іх раўнавартасьць у іншых валютах. Вось мы просім усіх зацікаўленых зьвярнуць увагу на наступнае:

1) Успомненыя кружэлкі не прадаюцца паасобна, а толькі цэлым камплетам (пяць кружэлак);

2) 10 шылінгаў каштуе кружэлка ў Вялікай Брытаніі ўлучна з паштовымі коштамі. У ЗША, Канадзе й Аўстраліі цэлы камплет каштуе 10 даляраў улучна з паштовымі коштамі;

3) Хто жадае мець кружэлкі Забэйды-Суміцкага, хай паруплівіцца хутчэй іх выпісаць, бо выданьне было нешматлікае й кружэлкі неўзабаве разыйдуцца.

K. Dźvinski,
Marian House, Holden Avenue,
London, N. 12, (Gt. Britain)

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.